ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1796) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 14 КАСТРЫЧНІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.




Праўдападобна ў 1490 годзе (дакументы не захаваліся) нарадзіўся ў Полацку выдатны беларускі мысліцель, асветнікі дзеяч, славянскі першадрукар Францыск Скарына. У ягоны гонар сёлетні, 1990 год ЮНЕСКА назвала годам Скарыны. Пяцісотая гадавіна яго нараджэння ўжо адзначалася вучонымі сінедрыёнамі Варшавы, Парыжа, Нью-Йорка, Масквы. Ад 1 да 10 верасня праходзіла з вялікім размахам скарынінскае свята і ў Беларусі. Арганізатарамі ўрачыстасцей былі найвышэйшыя дзяржаўныя ўлады рэспублікі і яе найвышэйшыя навуковыя ды культурныя ўстановы, такія, як Міністэрства культуры, Акадэмія навук, Фонд культуры, Таварыства „Радзіма", Саюз пісьменнікаў Беларусі і гэтак далей. Запрошаным з многіх краін свету гасцям далёкія нашчадкі Скарыны падрыхтавалі вельмі багатую ў змесце і форме праграму юбілею, з арганізацыйнага боку забяспечваючы ў кожны дзень звычайную ветлівасць і дакладнасць.

Калісь Беларусь была магутнай дзяржавай. І мела сваіх дачок і сыноў знакамітых, адпаведна вялікага фармату. Але на Ўсходзе і Захадзе ўжо буйнілі маладыя, больш дынамічныя народы. І пайшла Беларусь на некарысныя для сябе, як аказалася многа пазней, дамовы, і захірэла, і, абяссіленая, паддалася суседзям на многія стагоддзі, трацячы не толькі свае землі, палітычна-эканамічную незалежнасць, але паступова мову і з ёю сваю гістарычную памяць.

Сёння, калі гістарычныя абумоўленасці трагічнага становішча Беларусі ўсведамляем мы, як ніколі раней, ва ўсёй глыбіні і шырыні, па дапамогу нашаму нацыянальнаму адраджэнню, перш за ўсё духоўнаму, мы звяртаемся да святых нашай айчыны, да яе апосталаў, прарокаў, духоўных правадыроў і абраных асоб. Яны кшталтуюць нацыянальны этас, яны вонкава канцэнтруюць у сабе вузлавыя моманты гісторыі і праз іх прамаўляе трансцэндэнт. Таму якраз і патрэбна нам безупыннае вывучэнне імення іхніх жыццяпісаў, іхніх дзеянняў — і кожнае пакаленне будзе мець ад іх іншы духоўны пажытак. Як мы ад Скарыны.




Грунтоўнае спазнаванне біяграфіі Францыска Скарыны пачалося даўно. Але вучоныя з розных краін свету знаходзяць у ёй усё новыя факты для аспрэчвання. Напрыклад, да якой канфесіі ён належаў: Георгій ён па праваслаўнаму хрышчэнню ці ўсё-такі ён толькі Францішак? Які быў светапогляд вялікага гуманіста? І такія між іншымі пытанні прагучалі на юбілейнай навуковай сесіі (5 верасня), якую арганізавала Акадэмія навук БССР. Дакладчыкі гаварылі таксама пра скарынінскія пераклады Біблії, пра хрысціянскую традыцыю ў яго спадчыне, пра моўнае наватарства выдатнага першадрукара і ягоны ўплыў на друкарства ў суседніх дзяржавах. Ставіліся праблемы і заходнееўрапейскай традыцыі ў дзейнасці Скарыны. Шырока разглядалася тэма сусветнага скарыназнаўства.

Доследы гэтыя патрэбны, вядома, перш за ўсё нам самім: яны паказваюць велічную асабовасць асветніка, яго падзвіжніцкую самаахвярную працу-службу айчыне, яны асвятляюць яго эпоху — залаты век беларускай культуры. І мы выразна бачым, якімі мы былі ў тое даўноміну лае, і якімі маглі б быць надалей, і якія мы зараз, да чаго апусціліся. А ісціна спазнаецца толькі ў параўнанні. І вось гэтае супастаўленне падсцёгвае да дзейнасці. Яно павінна заахвочваць нашчадкаў...

У праграме скарынінскага свята, якое праводзілася ў Менску і Полацку, апрача ўспомненай навуковай сесіі, было многа іншых мерапрыемстваў, якія мелі як мага шырэй удыхнуць у людскую свядомасць (з нагоды 500-годдзя Скарыны) ідэю адраджэння Беларусі. Праводзіліся язычніцка-карнавальныя гулянні, шэсці, феерверкі і тэатралізаваныя відовішчы, і былі ўрачыстыя канцэрты прафесіянальных тэатраў, спявалі хоры і ігралі на пляцах аркестры. Але і была Святая Літургія ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку, і канцэрт духоўнай музыкі ў Сафійскім саборы. І быў урачыста адкрыты ў тым жа Полацку Музей беларускага кнігадрукавання, пачатак якому даў менавіта Скарына. У тыя дні Асветнік быў відочны на плакатах, сцяжках, значках, яго выява паявілася на паштовых марках, манеце. З ягс

(Працяг на стар. 6)

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

Набліжаецца знамянальны дзень 27 кастрычніка гэтага года, на які запланавана адкрыццё першай экспазіцыі ў адрамантаванай ужо часткі будынка Беларускага музея ў Гайнаўцы. Радасць усіх дзеячаў, звязаных з пабудовай, спалучаецца аднак з непакоем: ці будаўнікі змогуць выканаць усе прадбачаныя працы на час і ці ў памяшканнях можна будзе паказваць экспанаты матэрыяльнай культуры ўсходняй Беласточчыны? Гэтым пытанням было прысвечана спалучанае пасяджэнне прэзідыумаў ГП БГКТ і Праўлення Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея, якое адбылося 23 верасня 1990 года ў Гайнаўцы. На пасяджэнні прысутнічалі таксама госці з Беларускай ССР, спецыялісты-музеязнаўцы Таццяна Гаранская, Ігар Марачкін і Хведар Ладуцька.

Пасяджэнне вёў старшыня Прэзідыума ГП Аляксандр Баршчэўскі. Уступную інфармацыю аб стане будаўляных прац склаў старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея Кастусь Майсеня. Зараз выстаўчыя залы адмалёўваюцца і вышчышчваюцца, увесь музейны будынак падключаецца да водаправоднай і энергетычнай сетак, праводзіцца адвадненне пабудовы, прадбачваецца атынкаванне часткі будынка „Б", асабліва кіназалы, у якой выканана ўжо электрычнае абсталяванне, закуплена таксама кінаапаратура — усё за грошы грамадзян БССР. Рыхтуюцца матэрыялы на агароджу ўсяго музейнага пляца, а таксама частковае яго загаспадаранне.

Больш выканаць будаўляных прац без грошай было нельга, і таму прысутныя выказалі ўдзячнасць членам Грамадскага камітэта пабудовы музея.

Найбольш часу прысвечана было падрыхтоўцы першай экспазіцыі. Трэба шчыра прызнацца, што ў гэтым напрамку яшчэ зроблена вельмі мала і што адказнасць за гэта нясе Прэзідыум ГП, асабліва яго штатныя працаўнікі, у тым ліку Гайнаўскага аддзела БГКТ. Не звезены і не апрацаваны яшчэ экспанаты матэрыяльнай культуры. Перахоўванне іх у некалькіх месцах перашкаджае стварыць сцэнарый, нават часовай экспазіцыі. Прысутныя абавязаліся самі і

(Працяг на стар. 2)

## НА мяжы

— 8 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Раннім летам у Мінску і па ўсёй Беларусі ўрачыста адзначалася свята славянскай пісьменнасці. Была праведзена вялікая міжнародная навуковая канферэнцыя і дзесяткі, а можа і сотні, розных культурных мерапрыемстваў не толькі ў Мінску, але і ў многіх іншых мясцовасцях Беларусі. Таварыства „Радзіма" запрасіла на гэта свята прадстаўнікоў БГКТ. Мы, г.зн. В. Петручук, С. Яновіч і я, паехалі ў Мінск. Апрача нас былі таксама запрошаныя „Хлопцы-рыбалоўцы".

Некалькі разоў давялося слухаць розныя прамовы. Сярод іх найпрыгажэйшымі і па форме і па беларускім змесце былі выступленні Ніла Гілевіча. Выглядае ён манументальна, голас моцны і змест прамоў глыбока прадуманы. Нават папкі ў яго былі ў нацыянальных колерах. Прамаўляў некалькі разоў і беларускі мітрапаліт Філарэт. На жаль, у яго прыгожых па форме прамовах не было нічога беларускага апрача ўступнага: „Дарагія сябры". І гэта як на айца пераважаючай у Беларусі праваслаўнай рэлігіі далёка не дастаткова. Усё яшчэ праваслаўная царква ў Беларусі не разумее, што адзінае, што магло б гарантаваць і прыспешыць яе адраджэнне ў беларускіх сэрцах — гэта яе нацыянальны характар. Калі будзе праваслаўная рэлігія ва ўсіх сферах ужытку і абіходу карыстацца беларускай мовай, дык наступіць яе адраджэнне. Не будзе ў стане правесці такую перабудову, дык будзе чахнуць на перыферыях беларускай адроджанай духоўнасці. Час рускамоўнай царквы на Беларусі набліжаецца да канца. Чым хутчэй зразумее мітрапаліт Філарэт і яго акружэнне, тым хутчэй пачнецца працэс духоўна-рэлігійнага адраджэння беларускай нацыі. Зрэшты, некалькі месяцаў назад зноў у тым жа Мінску пераканаўся я, што Праваслаўная царква не засталася зусім глухой на павевы новага ў гісторыі. Прыслухаўся, як гавораць паміж сабой вучні праваслаўнай семінарыі ў Жыровічах, і пачуў — па-беларуску. Гаварылі свабодна для сябе, а не на паказ, і сэрца мае расцвітала. Нараджаецца беларускае свядомае духавенства! Духавенства, якое незалежна ад сітуацыі будзе дэманстраваць свой нацыянальны беларускі твар.

Вернемся аднак да святкавання славянскай пісьменнасці. Запамяталася мне яшчэ вельмі смелае выступленне Барыса Сачанкі, які ў Саюзе пісьменнікаў БССР сказаў, што сённяшняе палітычнае і ўрадавае кіраўніцтва рэспублікі не ў стане нацыянальна перабудавацца, і таму сапраўднае нацыянальнае адраджэнне Беларусі стане магчымым толькі тады, калі кіраўніцтва рэспублікі акажацца ў руках дзеячаў новага пакалення. На гэтым сходзе давялося выступіць і мне. Вось вытрымкі сказанага мною:

„Цешаць нас усе сустрэчы, тэмай якіх з'яўляюцца справы адраджэння Беларусі, бо лёс беларусаў, раскіданых па свеце, залежыць ад таго, што станецца на Радзіме. Хацелася б, каб уся дзейнасць беларусаў па-за межамі Беларусі не мела апазіцыйнага характару, а толькі канструктыўны. Айчына для ўсіх павінна быць маяком, які асвятляе шлях, прыклікае і інспіруе.

А як выглядае гэта справа сёння? Выглядае дрэнна. Калі паляк з Беларусі едзе ў Варшаву ці ў Кракаў, дык гэта падарожжа можна прыраўнаць да такога, калі падарожны ў час вялікай спякоты і смагі дарываецца пасля доўгай хады да халоднай, аздараўляючай крыніцы. На жаль, такога нельга сказаць аб беларусах, раскіданых па свеце, якія прыязджаюць у Гродна ці Мінск. У гэтых гарадах, як зрэшты і ва ўсёй Беларусі, не знаходзім з'яў, якія былі б для нас інспірацыяй і надзеяй. Беларусь павінна зрабіць усё, каб стацца Беларуссю, і каб кожны яе сын ці дачка незалежна ад таго, дзе яны жывуць у шырокім свеце, знаходзілі ў Беларусі апору для сваёй вернасці. А гэта будзе толькі тады, калі Беларусь скіне з сябе духоўнае зняволенне, калі вернецца да нацыянальнай мовы і нацыянальнай свядомасці. На жаль, працэс беларусізацыі ў БССР незаўважальны і нельга яго ў ніякім выпадку параўноўваць з тым з 1922—1929 гадоў, які давёў да цудоўнага рэнесансу беларускасці ў Беларусі".

Выступленне маё засталося без рэха, зрэшты, не толькі маё.

**Алесь Барскі**

# Вялікі дар

**Спяшаемся паведаміць, што ў чарговы раз амерыканскія беларусы аказалі вялікую дапамогу Беларускаму музею ў Гайнаўцы. Выказвалі яны і выказваюць надалей нязвыклае зразуменне для агульнабеларускіх нацыянальных спраў. У апошні час спадарыні Веры Бартуль з Нью-Йорка ўдалося сабраць сярод сваіх суайчыннікаў аж 7 тысяч долараў на музей, якія яна перадала на нашы рукі ў Нью-Йорку 25 верасня гэтага года. Амерыканскія беларусы хочуць толькі аднаго — каб пабудова музея была шчасліва завершана і каб знайшоўся там куточак і для беларускай эміграцыі, якая, хаця і жыве далёка ад зямлі сваіх братоў-беларусаў, то думкамі і чынамі заўсёды застаецца з імі.**

**Ніжэй падаем спіс ахвярадаўцаў.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. З. і В. Кіпель | 1.000 | долараў |
| 2. Рада БНР | 1.000 | -„- |
| 3. Фундацыя Крачэўскага | 1.000 | -„- |
| 4. В. і Ф. Бартуль | 1.000 | -„- |
| 5. Я. Запруднік | 500 | -„- |
| 6. Д-р В. Набагез | 500 | -„- |
| 7. Д-р Вітаўт Рамук і Вера Рамук | 500 | -„- |
| 8. Галоўная Управа БАЗА | 400 | -„- |
| 9. Д-р А. Занковіч | 350 | -„- |
| 10. БАЗА — Нью-Йорк | 300 | -„- |
| 11. Д-р Я. Сажыц | 100 | -„- |
| 12. В. Артон | 100 | -„- |
| 13. А. Шукелайць | 100 | -„- |
| 14. Р. Станкевіч | 100 | -„- |
| 15. К. і М. Варабей | 50 | -„- |
| | 7.000 | долараў |

**(Сем тысяч долараў).**

# У прэзідыуме ГП БГКТ

(Працяг са стар. 1)

абавязалі штатных працаўнікоў ліквідаваць гэты недахоп на працягу двух тыдняў.

Сумны настрой, выкліканы нашай нядбайнасцю, развеялі прысутныя на пасяджэнні госці з БССР. У рамках супрацоўніцтва па просьбе БГКТ і Грамадскага камітэта пабудовы музея зацікаўленыя ўстановы ў Беларусі справу экспазіцыі патрактавалі вельмі сур'ёзна. Мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская паінфармавала, што ўжо раней пры таварыстве „Радзіма" ў Мінску створаны Аргкамітэт дапамогі гайнаўскаму музею. У яго ўвайшлі прадстаўнікі Міністэрства культуры БССР, Фонда беларускай культуры, газеты „Голас Радзімы" і ўспамянутага таварыства. Першую выстаўку ў музеі дапамогуць аформіць прысутныя тут вядомыя беларускія мастакі Ігар Марачкін і Хведар Ладуцька. Яны падрыхтавалі ўжо вельмі каштоўнае пераноснае абсталяванне выстаўкі, якое будзе ўласнасцю музея, і якое можа быць выкарыстана ў іншых залах па-за музеем. Частка экспанатаў на першую экспазіцыю будзе пазычана на адзін месяц з музеяў Мінска. Затым мастакі пазнаёмілі з праектам-макетам экспазіцыі, які прадугледжвае тры раздзелы: ткацтва, дойлідства і дасягненні беларускай культуры. Прадбачваецца кіёск продажу сувеніраў, у тым ліку карцін. На пастаяннае карыстанне музей атрымае некалькі фільмаў, у тым ліку для дзяцей.

Госці з БССР запрапанавалі нам таксама з нагоды адкрыцця выстаўкі арганізаваць папулярна-навуковую сесію, на якую яны падрыхтуюць 4-5 дакладаў на тэму беларускай матэрыяльнай культуры, а нашым этнографам трэба было б таксама расказаць аб доследах на ўсходняй Беласточчыне. Прадбачваецца прыезд многіх гасцей з БССР і заходніх краін, удзел прадстаўнікоў беластоцкіх улад і, зразумела, мясцовых беларускіх дзеячаў.

**Ул. Юзвюк**

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнцкія выбары адбудуцца 25 лістапада.** Сейм у гэтай справе змяніў Канстытуцыю і прыняў закон аб выбарах Прэзідэнта РП. У Канстытуцыі запісана, што прэзідэнт выбіраецца народам у ўсеагульных, роўных, прамых і тайных выбарах. Прэзідэнтам можа быць выбраны кожны грамадзянін Польшчы, якому споўнілася 35 год і які мае поўныя выбарчыя правы.

**Гранічны пункт паміж Польшчай і СССР адкрыты быў у Кузніцы-Беластоцкай.** Але не абыйшлося без клопатаў. Савецкі бок не дакончыў будаўнічых работ і асфальтавання дарогі і прапанаваў пасля афіцыйнай цырымоніі адкрыцця пункта закрыць яго на два тыдні. Польскі бок супрацьставіўся гэтаму. У выніку перагавораў было прынята кампраміснае вырашэнне — праз першыя два тыдні пункт будзе працаваць ад 10 да 18 гадзіны паводле маскоўскага часу, а потым — кругласутачна.

**Савецка-нямецкі дагавор аб вывядзенні савецкіх войск** з тэрыторыі былой ГДР быў падпісаны ў Боне. ФРГ абавязалася даць 7,8 мільярда марак на пабудову жылля для вяртаючыхся ў СССР салдат, 1 мільярд марак — на кошты транспарту вайсковых падраздзяленняў і 200 мільёнаў марак — на адукацыю савецкіх салдат. Масква атрымае таксама беспрацэнтны крэдыт — 3 мільярды марак.

**Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў** заявіў, што магчымым з'яўляецца тое, што ў некаторых раёнах краіны могуць быць адкліканы мясцовыя ўлады, распушчаны саветы і ўведзена прэзідэнцкая юрысдыкцыя.

**У Львоўскай вобласці амаль усе тавары ад 1 лістапада будуць прадавацца па талонах.** За грошы можна будзе купіць толькі малако і хлеб. Мясцовыя ўлады хочуць такім спосабам не толькі „замарозіць гарачыя грошы", але і ўвесці рыначную гаспадарку.

**Пяцікілаграмная бомба пашкодзіла помнік Леніну** ў горадзе Феадосія (Крым). Выбух здарыўся некалькі гадзін пасля мітынгу ў гонар правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**ПРАМОВА САКРАТА ЯНОВІЧА НА ЎСТАНОЎЧАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ „БАЦЬКАЎШЧЫНА“.**

# Мы не хочам міласціны

**Шаноўныя Спадарыні, Паважаныя Спадары! Дарагія Суродзічы!**

Прывозім Вам беларускае прывітанне з Беластока, з Беластоцкага Краю.

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне як палітычная партыя Беларускага Народу Рэчыпаспалітай Польскай дэкларуе свой удзел у Згуртаванні беларусаў свету „Бацькаўшчына“. Нам хораша ўсведамляць сабе тое, што мы ўжо не нацыянальныя сіроты. Ёсць у нас Маці-Беларусь! Грамадзянская лаяльнасць Польскай дзяржаве не пярэчыць бачыць у Беларускай дзяржаве сваю радаводную айчыну. Мы — натуральная частка Беларускага Народу, яе заходні этнічны рубеж.

З гэтых сцвярджэнняў вынікаюць якраз з нашага боку зусім не эмігранцкія спадзяванні на помач для нас ад Беларускай рэспублікі, дакладней кажучы: на супрацоўніцтва з ёю Беларускага Народу Рэчыпаспалітай Польскай. Шмат якія праблемы ў Беластоцкім Краі, культурныя насамперад і эканамічныя, зможам лепей вырашыць разам з Вамі, як беларусы з беларусамі. Скажу так: Вы патрэбны нам, а мы — Вам!

Бракуе нам беларускага слова як падставы духа. Беларускай кніжкі — як падставы культурнасці. Знаходзячыся ў становішчы нацыянальнае меншасці, хоць і істотнай у маштабах нашага рэгіёна, мы не ў стане ўсё самі мець. А перш за ўсё не хочам заставацца сохнучым струпам на жывым целе беларускай культуры. Благаем успамагчы нас, каб уцалелі мы нацыянальна жывымі! Гэта не просьба аб філантропіі. Адчыніце ў гарадах нашай правінцыі беларускія кнігарні, а Менск на іх яшчэ заробіць... Школы з беларускай моваю ў нас ахвотна абменьваліся б з вашымі, напрыклад, вакацыйнымі групамі вучняў, што мела б і шырэйшае значэнне. Тое ж датычыць калектываў мастацкай самадзейнасці, прафесійных (першыя, шчаслівыя, зрухі наглядаюцца). Нашы кніжныя і часопісныя выданні даходзяць у Беларускую рэспубліку ўсяго аказіяй або кантрабандай. Чаму яны не могуць з'явіцца ў рознічным продажы ў Менску, Гомелі, Віцебску, Гародні, Бярэсці? То ж не задарма, не са стратаю для Вас, як і Вашы — у нас.

Адзінае, чаго дамагаемся ад сваіх кроўных братоў бясплатна, дык гэта падбаўкі кілавольтаў Беларускаму тэлебачанню і Беларускаму радыё настолькі, каб мы давалі рады бачыць ды слухаць у Беластоку не слабей, чымсьці польская дыяспара ў Гародні чуе і глядзіць Варшаву. У Віцебску адбываюцца фестывалі польскае песні. У сябе мы сёлета наладзілі нешта падобнае, але беларускіх спеваў. Падтрымайце нас!

Беласток можа і павінен стацца цэнтрам чагосьці ўсебеларускага. Няхай ім будуць песні.

Настрой гешэфту ў мяне невыпадковы: занадта часта мы слухалі з Вашага боку намёкі і апраўданні са спасылкамі на беднасць. Хачу дадаць дзеля яснасці, што цяпер уся Усходняя Еўропа пакутуе ад безграшоўя, асабліва ў сферы культуры. Нарэшце зраўнялася яна з Беларуссю...

Не прэтэндуем на платанічную любоў ад Вас, браты нашы, таксама і ў галіне гаспадарчых сувязяў. Давайце думаць катэгорыямі нацыі, адкінўма графаманскую паэтыку газетнай дружбы. Мы ж і эканамічна патрэбны Вам. А нам без Вас напэўна будзе цяжэй. Той самы арэал у цывілізацыйным сэнсе, клімат і нават структура сельскагаспадарчай прадукцыі, рамесных і вытворчых паслугаў. Мы не былі б для Вас экзатычнымі партнёрамі, а якраз наадварот: досыць відочна дапаўнялі б эканоміку, перш за ўсё заходніх вобласцяў Беларускай рэспублікі.

Пару гадамі назад шнырылі па Беластоцкім Краі вялізныя грузавікі з савецкімі рэгістрацыйнымі знакамі, шафёры якіх куплялі ад нашых гаспадароў бульбу ды іншае ежыва, плацячы ад рукі — хатняй тэхнікай і роварамі. Былі яны як бы славутымі партызанамі, закінутымі ў наш тыл дзеля паратунку беларуска-савецкага рынку... Але не партызаны выйгрываюць войны. Трэба рэгулярнага, дысцыплінавана арганізаванага тавараабмену, утварэння напачатак супольных гандлёвых фірмаў. Услед за імі пашыралася б інфраструктура гаспадарчага супрацоўніцтва тымі незлічонымі тысячамі нітак: магчыма, прыгранічным калгасам аказалася б цалкам дарэчы нейкая каапераця з падбеластоцкімі фермерамі; магчыма, фабрыкам і заводам Гарадзеншчыны давала б карысць сувязь з нашымі рамеснікамі; магчыма, будаўнічым прадпрыемствам над Нёманам або Пінаю было б куды выгадней атрымліваць пастаўкі цэглы, пустакоў, кафлі з нашага Гарадка над Супрасллю, ці Старога Ляўкова над Нараўкай? Мус прыехаць да нас, пабачыць нашае, перакалькуляваць разам з намі. Каб не вынікала арганізацыйнае безглазоўе, патрэбна ў Беластоку сталая гаспадарчая місія Беларускай рэспублікі, або і цэлае дыпламатычнае прадстаўніцтва. Не адно для парадку і павагі, а найперш дзеля саліднасці, элімінацыі дагэтуляшняга азіяцкага хаосу ды наплявацтва ва ўзаемных кантактах. Рэчпаспалітая Польская здаўна ўтрымлівае свой кансулат у Менску. Можна сказаць: адзін канец той самай палкі ёсцека...

Усюды ў Еўропе, на яе высокацывілізаваным захадзе ды поўначы, мясціны і ваколіцы паабапал дзяржаўных межаў багацеюць, а ў нас, у геаграфічнай толькі Еўропе, — глухамань і бяда з бядою! Чаму б не дадумацца і нам пайсці следам за разумным светам, адчыніць вольныя эканамічныя зоны ў прымежных станцыях: у Кузніцы, што на беластоцка-гродзенскім шляху, у Зубках з Баброўнікамі, што на беластоцка-ваўкавыскім, у Семяноўцы і ў Чаромсе, што на ўзбярэжках Белавежскай пушчы з напрамкамі на Слонім і Бярэсце? Хто не дазваляе на гэта: саюзная Масква ці суверэнны Менск? Гэтыя камунікацыйныя вузлы зусім не заняпалыя, праз іх дзень і ноч грукацець несціханым патокам усходнееўрапейскі экспарт-імпарт; бульбу і тую вязуць у Гомель чамусьці ажно з Франкфурта на Одры, замест з Валілаў каля Гарадка. У адной Гарадоцкай гміне згніло не летась некалькі дзесяткаў тысяч тон, бо не было каму прадаць... На заплеччы акурат зубкоўскіх чыгуначных ростаняў, на якіх гудуць, чакаючы семафорнага пропуску з Польшчы ў СССР, таварныя эшалоны з эмблемай сярпа з молатам.

Гэта ж страчаныя, прамарнаваныя шанцы нам і Вам! Не дайма знішчыць іх датла!

Мы прапануем Вам не якіесьці новыя цяжары, ад якіх цяпер усе гнуцца і хістаюцца. Прапануем нешта адваротнае — добры рахунак. Рахунак з маральным падтэкстам. Бо толькі заможны народ можа быць і культурным як двухадзінасць фактараў чалавечага развіцця. І хоць свядомасць прыходзіць заўсёды пасля хлеба, то, аднак, трэба памятаць, што адно і другое рэалізуецца ў пары: мала хлеба — мала і свядомасці, культуры. Мала культуры — мала і хлеба. Па закону зваротных сувязяў. Калі мала карысці, то і дружба такая...

Давайце багацець! Давайце беларусамі быць!

Дзякую за ўвагу.

**Сакрат Яновіч**
**Менск, 10 верасня 1990 г.**

# ЧЫТАЦЬ СУСВЕТНУЮ ЛІТАРАТУРУ ПА-БЕЛАРУСКУ

**Размова з БАРЫСАМ САЧАНКАМ, загадчыкам Рэдакцыі замежнай перакладной літаратуры ў выдавецтве „Мастацкая літаратура“.**

*— Апошнім часам назіраюцца значныя зрухі ў выдаванні замежнай перакладной літаратуры выдавецтвам „Мастацкая літаратура“. І хоць колькасць выдадзеных твораў, паводле еўрапейскіх мерак, не болей, чым сціплая, то ў параўнанні з сітуацыяй на беларускім кніжным рынку ў мінулыя дзесяцігоддзі гэтыя змены можна назваць каласальнымі. Ці гэты выдавецкі курс адносна перакладаў можна лічыць нечым стабільным?*



— Думаю, што так. Намеры ў нас такія, каб стварыць сваю школу перакладчыкаў і выдаць на беларускай мове самае лепшае з сусветнай літаратурнай спадчыны. Каб у будучыні можна было перавесці выкладанне літаратуры ў вышэйшых школах рэспублікі на беларускую мову. Цяпер гэтае выкладанне вядзецца на рускай мове, бо няма беларускіх перакладаў. Раней жа, як ведаеце, палітыка ў нашых выдавецтвах была такая: няма патрэбы перакладаць на беларускую мову, бо ўсё можна прачытаць па-руску. Зараз, калі мы пачынаем рабіць захады дзеля выратавання беларускай мовы, без добрых беларускіх перакладаў з сусветнай літаратуры нам не абысціся. Справа тут не толькі ў тым, каб павысіць прэстыжнасць беларускага слова. Асваенне беларускай мовай лепшых здабыткаў замежнай літаратуры непасрэдна спрыяе развіццю і ўзбагачэнню самай мовы. Такім чынам, выдаванне перакладной літаратуры — гэта будаванне саліднага падмурка пад беларусізацыю навучальнага працэсу ў школах рэспублікі і, адначасова, істотны ўклад у развіццё і замацаванне жыццяздольнасці нашай мовы.

*— Дзеля гэтага патрэбны перакладчыцкія кадры, з добрай падрыхтоўкай... Ці дзень сягоняшні ў беларускім перакладзе дае падставы меркаваць, што вышэй спомненую задуму можна будзе ажыццявіць у нейкай не надта далёкай ад нас будучыні?*

— Рэалізацыя гэтай задумы ўжо пачалася. Сёння мы маем патэнцыяльныя магчымасці публікаваць пераклады з 30 моваў свету. У пераважнай большасці займаюцца перакладамі маладыя людзі з добрай філалагічнай падрыхтоўкай, калі мець на ўвазе замежныя мовы. Клопат бывае наогул з добрым валоданнем беларускай мовай. Зараз, паводле мае ацэнкі, мы маем дачыненне з двума дзесяткамі сур'ёзных маладых перакладчыкаў, з якімі варта працаваць, ад якіх можна спадзявацца творчых поспехаў. Агульна кажучы, сітуацыя даволі добрая з веданнем еўрапейскіх моваў, асабліва польскай, балгарскай, французскай і англійскай. Горай з іспанскай. Няма, пакуль што, спецыялістаў па мовах Далёкага Усходу — японскай, кітайскай, карэйскай, таксама арабскай. Праўда, апошнім часам паявіўся чалавек, які перакладае з японскай. Аднак жа

**(Працяг на стар. 6)**

## ПОГЛЯДЫ

### РЭЛІГІЯ Ў ШКОЛАХ

Ад гэтага навучальнага года ў прадшколлях ды ўсіх школах уведзена навучанне Божага закона. І хаця, як паказваюць статыстыкі, большасць грамадзян Рэчыпаспалітай выказваецца супраць, ніхто і нішто гэтага не зменіць. У такой важнай для грамадскасці справе хапіла толькі волі каталіцкага епіскапату ды некалькіх клерыкалаў з урадавых колаў. Не была праведзена ніякая кансультацыя з іншымі зацікаўленымі бакамі, у тым ліку і з прадстаўнікамі Экуменічнай рады (у ёй згуртаваны хрысціянскія рэлігіі, афіцыйна прызнаныя дзяржаўнымі ўладамі). Не было б таксама лішнім клопатам даведацца, што думаюць пра гэта ўсе жыхары Рэчыпаспалітай (у цывілізаваных дзяржавах адносна такіх спраў праводзіцца рэферэндум).

Аб'ектыўных наглядальнікаў вельмі здзіўляе хуткасць, з якой Міністэрства нацыянальнай адукацыі ўвяло новы прадмет у школьныя праграмы. Недахоп катэхетаў, праграмаў, падручнікаў падказваў бы хутчэй, каб сур'ёзна падрыхтавацца да ўсяго ды ўвясці рэлігію прыкладна праз год.

Міністэрства гарантуе ўсім веравызнанням магчымасць навучаць сваіх вернікаў на роўных правах. Аднак вельмі скептычна прынялі гэты доказ памяркоўнасці вернікі іншых рэлігіяў. Аказаліся яны ўжо перад фактам, да якога былі непадрыхтаваныя, пазбаўленыя практычна магчымасцяў навучання дзяцей свайй рэлігіі.

Ёсць яшчэ і іншыя аспекты гэтай справы. Першы — юрыдычны; уядзенне рэлігіі ў школу пярэчыць свецкасці асветы, а гэта — відавочнае ламанне канстытуцыі.

Другі, у цэлай гэтай авантуры, бадай, ці не найважнейшы, — гэта ўмовы, у якіх давядзецца вучыцца дзецям не каталіцкім, якія заўсёды будуць у меншасці. Якраз яны могуць быць міжвольнымі ахвярамі рэалізацыі лозунгаў польскіх эндэкаў — адзін народ, адна рэлігія.

Ужо першыя дні навучальнага года паказваюць вялікую складанасць гэтага пытання. Праваслаўныя настаўнікі рэлігіі, з якімі я гутарыў, выказвалі вельмі розныя меркаванні. Агульны погляд такі, што каталіцкая царква даўно гатова ўвайсці ў школы, усе іншыя — зусім не. Шмат хто з іх (гэта пераважна студэнты ды працуючая моладзь) расказвалі пра выпадкі варожых адносін да іх з боку моладзі, нават настаўнікаў. Адначасова, амаль ва ўсіх школах каталіцкі святар, гэта такая ж важная асоба, як дырэктар, калі не ляпей.

Усе яны згодны, што гэта толькі пачатак. Зараз рэлігія — як дадатковы прадмет, а праз год можа быць абавязковым. У гэтым годзе „ерэтыкі" могуць навучаць сваіх дзяцей, а праз год...?

Найбольш турбуюць маладых катэхетаў адносіны бацькоў, якія павінны даць пісьмовае асведчанне, што іх дзеці будуць вучыцца рэлігіі. Як будуць паводзіць сябе тыя інтэлігенты з лёкайскім падыходам да жыцця, цяжка прадбачыць. Дасведчанні мінулага не дазваляюць, на жаль, быць аптымістам: хаця б прыклад апошніх выбараў, калі нават лідэры Праваслаўнага брацтва, якія кандыдавалі ў гарадскую самаўправу, пабаяліся назваць свой выбарчы камітэт беларускім і хаця б праваслаўным.

А можа будзе зусім наадварот. Можа бацькі захочуць так, што трэба будзе вучыць і праваслаўнай рэлігіі і роднай беларускай мовы, якая столькі гадоў была тантанай на вуліцах Беластока, Бельска, Гайнаўкі...

**Ю. Каліна**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Андрыянкі. Стары двор. Малюнак У. Петрука.*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 16 —

Пабыўшы ў Мінску як сталіцы, можна зняверыцца да перспектыў гэтай краіны. Не таму, што звычайны чалавек не хоча аніякіх зменаў і рэформаў, бо так усюды на свеце: абы паесці ў смак, апрануцца на свой густ, і мець нейкае жытло. Гэткай трыядай кіруюцца рабацяшчыя на Усходзе і на Захадзе. Бяда ў іншым. Інтэлігенцыя як клас і фармаваныя з яе кіраўнічыя структуры дзяржавы гэтак жа мінімалістычныя ў сваіх амбіцыях: абы акуратнейшая выплата і крыху прывілеяў ад улады. Такая галава нацыі, то і цела яе марнае. Непаваротлівае. Летаргічнае.

Беларусь заражана расійскім фаталізмам. Ідзе ён і ад праваслаўя. Заходні чалавек тым адрозніваецца ад усходняга, што ўслед за фразай „Усё ад Бога", дадае: „Але Богу трэба дапамагчы". Мы, беларусы, занадта пагаджаемся з лёсам. І пакуль не вылезем з удушнага мяшка згоды на прасторы пазітыўнай агрэсіі, нікуды мы не зойдзем. Застанемся глушманамі Еўропы. Намадамі — з пашы на пашу.

Пераказ размоўкі з мінскімі знаёмцамі: — Чаму вы маўчыце? — А чаго крычаць? — Трэба пратэставаць! — А што гэта дасць? — З'явіцца ўсведамленне зла. — А мы і без гэтага ведаем, што жывем па-быдлячаму. — Ну і што? — А нічога.

Настае ціш. Гляджу ў вакно, на каменную панараму, і брыняе ўнутры неадольнае жаданне з'ехаць адсюль да сябе, у Беласток. І ў нас не завельмі багацей, ды хоць людзі мітусяцца, шукаюць паратунку. Актыўна нязгодныя. Яны, часам, ловяць весткі пра Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" ды прымаюць іх паводле свайго розуму. Думаюць: сіла накшталт „Салідарнасці". Ім няўцям, што фронтаўцы — усяго толькі тыя дзятлы, якія заядла дзюбаюць у пень усенароднай абыякаўшчыны, мяртвоты пачуццяў і думкі. Трэба ім перш выесці наменклатурных караедаў, тады нацыянальнае дрэва пусціць адросткі, пазеляннее і возьмецца расці. Вытруціць сродкамі БНФ, правесці дэзінфекцыю.

Беларусь чакае дэмакратычная рэвалюцыя (не блытаць яе з антыбальшавіцкай панажоўшчынай). Яна выклёўваецца ў самім яйку рэжымнай ізаляванасці ад народа. Квактухай ёй менавіта адраджэнская смута; квокча і кліча вылузацца са шкарлупіны на свет белы, пакідаючы парахнеючае гняздо. Замежная Усходняя Еўропа, не іначай выскачыла з камуністычнага пекла. Саюзам партыйных рэфармістаў і апазіцыі, што не магло не выкінуць партыю на сметнік гісторыі. Там, дзе да гэтага яшчэ не дайшло, — у Кітаі, Паўночнай Карэі, В'етнаме, Кубе, Албаніі, — надалей маразм ды безнадзея, дэгенерацыя чалавечнасці, рэдукцыя яе да функцыяў арганізму. Тым гучнейшым адбудзецца ў іх „эфект адаткнутай бутэлькі".

Злосць на Амерыку! Яна глядзіць на нас, бы дарослы на ўчынкі дзіцяці, загаддзёў ведаючы, чым скончацца. А мы ўсё адкрываем і адкрываем здавён адкрытае. І наўпрасты, палямілясамі, варочаемся на шлях, па якім ішлі ж калісьці, пакуль не кінуліся з мудрасці ды ў хітрасць. Ой, паплаціліся!

*(Працяг будзе)*

## ПОЛАЎЦЫ

Ляжыць вёска пры самай граніцы. Перад уваходам у Полаўцы мінаем крыж, пастаўлены ў гонар загінуўшым у І сусветную вайну. У вёсцы вітае нас на раздарожжы другі крыж. Тут хвіліну адпачываем ды разважаем пра мінулае Полаўцаў. Адкуль жа такая асаблівая назва? Што супольнага мае падляшская вёска з племенем стэпных качоўнікаў? Аднак... Звернемся тут да слоў вядомага гісторыка Пятра Бабкоўскага, кроўна звязанага з Падляшшам. Пісаў ён ў мінулым стагоддзі: „Галицкие князи около Бельска поселили половцев, по преданию в семи деревнях; следы их уже исчезли, остается деревня Половцы, в которой нельзя отличить какую-нибудь особенность ни в языке, ни в характере". Ці сапраўды племя полаўцаў дало пачатак вёсцы? Вось цікава, на паўднёвым Падляшшы, каля Яблачына, знаходзіцца ўрочышча, таксама з назваю Полавец (над Бугам, дзе стаіць часоўня св. Духа).

Ёсць аднак наглядная асаблівасць, якая адрознівае Полаўцы ад навакольных вёсак. Гэта гаворка. На пераломе XIX/XX ст.ст. вёску пачалі насяляць „прышэльцы" з-пад самай Гайнаўкі, з сабою прынеслі гаворку. Адрозніваецца яна ад гаворкі суседняга Ставішча ці Вольскі-Тэрахоўскай большай мяккасцю...

З Полаўцаў накіроўваемся лесам на поўдзень, уздоўж граніцы. І так вось ізноў, ужо апошні раз, перасякаем Берасцейскі Тракт. У тым жа месцы ён пераходзіць граніцу. Хвіліну затрымліваемся перад „шлябанамі"... Вось і непадалёк Высокае Літоўскае, а калі ісці далей, трапілі б да Камянца ды Белай Вежы. Побач з Трактам на мяжы знаходзяцца магілкі. Пасля вайны, калі ўстанаўлялі гранічную паласу, частка гэтых магілак была па-просту знішчана. Ужо пасля вайны людзі паставілі тут капліччку Пакровы Божай Маці.

Ідучы далей уздоўж граніцы, пераходзім чыгуначную лінію Чаромха—Брэст і спыняемся ў Бабкоўцы. Каб увайсці ў вёску, трэба пераступіць драўляны

## ВЫРАШЫЛІ ПА-САВЕЦКУ

У рэдакцыю ўсё яшчэ прыходзіць шмат лістаў з запытаннямі ад чытачоў з Беларусі, што дзеецца з „Нівай“, чаму, пачынаючы з красавіка, падпісчыкі не атрымліваюць яе. Аказваецца, у Мінску пра гэта нельга даведацца. На пачатку верасня падпісчыкі „Нівы“ ў БССР атрымалі поштай ад Беларускага рэспубліканскага аб'яднання „Саюздрук“ талоны з паштовым пераводам на суму 7 рублёў 80 капеек — зварот грошай за падпіску „Нівы“ на тры кварталы 1990 г. На талонах было пазначана, што наша газета закрытая, пачынаючы з 14 нумара. Закрытая дзе? Там ці тут? „Ніва“ выходзіць далей, праўда, тыражом удвая меншым, але ж ніхто, пакуль што, закрываць яе не збіраецца.

Справа тут у чым? Спецыяльным законам Сейм ліквідаваў РСВ „Праса-Ксёнжка-Рух“ — выдаўца большасці газет у Польшчы, у тым ліку і „Нівы“. Фінансаванне „Нівы“ ўзяло на сябе Міністэрства культуры і мастацтва. У новай фінансавай сітуацыі фірма „Арс Полёна“, якая займаецца высылкай прэсы за мяжу, запрапанавала савецкаму баку новыя (вышэйшыя) цэны падпіскі. Як відаць, абодва бакі не дамовіліся. Наколькі нам вядома, „Саюздрук“ не парупіўся папытаць падпісчыкаў, ці захочуць даплаціць да раней аплачанай падпіскі. Мяркуючы па допісах чытачоў з Беларусі, шмат хто зрабіў бы такое. Але „Саюздрук“ вырашыў іначай: вярнуць грошы і аб'явіць, што газета закрытая. Што ж, так лягчэй. Не першы раз савецкае ведамства праяўляе поўнае наплявацтва ў адносінах як да сваіх грамадзян, так і да замежных сувязяў.

**Ян Максімюк**


ТАЛОН
к почтовому переводу
на 7 руб. 80 коп.
От кого

## У ДАПАМОГУ ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

У канцы ліпеня г.г. у Беластоку стварыўся Польскі камітэт „Дзеці Чарнобыля“ (ПКДЧ). Узначаліў яго сенатар Анджэй Каліцінскі, — прафесар беластоцкай Медыцынскай акадэміі, а ў склад Камітэта ўвайшлі прадстаўнікі беластоцкай „Салідарнасці“, беларускіх арганізацый, Праваслаўнай царквы, Каталіцкага касцёла і рэдакцый мясцовых газет. Камітэт ужо зарэгістраваны ў Ваяводскім судзе і мае статус юрыдычнай асобы.

27 верасня пад старшынствам сенатара Анджэя Каліцінскага адбылося пасяджэнне Камітэта, на якім абмяркоўваліся вынікі пабыўкі ў Беластоку групы дзяцей з забруджанай радыяцыяй зоны і напрамкі далейшай дзейнасці.

Інфармацыю аб пабыўцы 103-асабовай групы дзяцей у Беластоку склаў упаўнаважаны ПКДЧ Віктар Стахвюк. Прабывалі яны ў беластоцкіх сем'ях, якія прымалі іх добраахвотна на працягу трох тыдняў. Негатыўным бокам гэтай формы пабыўкі з'яўляецца тое, што арганізатары не маюць магчымасці ўплываць на выхаваўчыя і матэрыяльныя ўмовы, у якіх апынуліся дзеці. З гэтага вынікаюць адмоўныя з'явы. Напрыклад, некаторыя багатыя апекуны абдароўваюць сваіх падапечных дарагімі рэчамі, калі, бяднейшыя абмяжоўваюцца толькі да дробных сувеніраў. Аднак у час такіх пабывак устанаўліваюцца паміж дзецьмі і апекунамі сямейныя кантакты, якія потым працягваюцца ўжо прыватным шляхам. І таму прысутныя на пасяджэнні згадзіліся, што нельга ў будучыні змарнаваць гэты шанц.

Аднак асноўнай формай дапамогі дзецям — ахвярам Чарнобыля павінна стаць калектыўная пабыўка на стацыянарнай апякунча-дыягнастычнай базе ў Беластоку, у якой дзеці маглі б знайсці медыцынскі паратунак. У Беластоку будзе можна знайсці адпаведны для гэтай справы будынак. Медыцынская акадэмія хоча прыняць удзел у доследах. З'яўляецца магчымасць прыцягнуць да гэтага заходнія медыцынскія інстытуты, якія маглі б ахвяраваць апаратуру.

Для стварэння апякунча-медыцынскага цэнтра патрэбны спонсары і вялікія грошы. Існуе неадкладная патрэба папулярызаваць дзейнасць Камітэта ва ўсёй краіне, стварыць яго аддзелы ў іншых гарадах. З заклікам у гэтай справе Камітэт звернецца да сенатараў Рэчы Паспалітай Польскай. Камітэт будзе таксама прасіць аўтара вядомай тэлеперадачы „Тэлевізія ноччу“ пасла Аляксандра Малахоўскага звярнуцца да гледачоў за дапамогай.

У сувязі з тым, што многія асобы, арганізацыі і прадпрыемствы жадаюць дапамагчы дзецям, пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі, паведамляем нумар рахунка, на які можна ўплочваць грашовыя ахвяраванні: **Polski Komitet „Dzieci Czarnobyla”, Bank PKO SA, Oddz. w Białymstoku, 505013-09001918-132-3-001110.** (л)




масток на рэчцы Бродэць. Плыценькая яна, але вадзіца затое крыштальна чыстая ды халодная; добра тут памачыць набалелыя ў вандроўцы ногі. За клунямі Баброўкі цягнецца гранічнымі паласа. Гэтая „атракцыя“ не спрые развіццю вёскі. Як і амаль усе прыгранічныя вёскі на Беласточчыне, яна трывожна абязлюдніваецца. Ці ж гэта незваротны працэс?

З Баброўкі пераходзім у

### ЗУБАЧЫ

Паводле першай звесткі з 1499 года можна меркаваць, што Зубачы існавалі ўжо ў І палове XV ст. У выніку фармавання земскай уласнасці на Падляшшы, Зубачы ў XVI ст. сталі адным з важных асяродкаў вялікіх землеўладальніцтваў (падобна суседнім Цяляцічам, Такарам ці Рагачам). Уласнікамі Зубачоў была шляхта з роду Тур-Зубацкіх.

Аб зубацкай царкве Пакровы Божай Маці вядома з пісьмовых вестак толькі з 1676 года. Несумненна, царква існавала намнога раней. Сённяшні храм стаіць у цэнтральным месцы вёскі, быццам матуля, якую акружаюць дзеткі — вясковыя хаткі. Царква гэтая была ўзведзена ў 1897 годзе, на месцы згарэўшай двума гадамі раней. Каля прыгожай царкоўкі стаіць асобная званіца, некалькі крыжоў ды жалезная пліта з месца вечнага спачынку свяшчэнніка а. Іаана Макавельскага (1772—1856). Яго пастырская дзейнасць у Зубачах прыпадае на І пал. XIX ст., на перыяд вяртання уніятаў у старую веру продкаў.

На могілках у Зубачах яшчэ дваццаць гадоў таму назад можна было памаліцца ў могільнікавай царкоўцы. Узведзена яна была тут у 90-ыя гады мінулага стагоддзя. Цікава, што матэрыял на яе пабудову паходзіў з разабранай царквы св. Міколы, што здаўна стаяла ў недалёкім мястэчку Мілейчыцы. Царкву разабралі па старасці каля 1887 года. Нанава перабудаваны ў Зубачах храмік прастаяў няцэлае стагоддзе, спапяліўшыся на парозе 70 гадоў. Яшчэ раз пакланіўшыся зубацкай царкве, пайшлі ў далейшую дарогу.

Каб з Зубачоў дайсці да Клюковічаў, трэба абавязкова перайсці рэчку Пульву. Затрымаймася на драўляным мосціку, задумаймася хвіліну над назваю рэчкі. Успамінаецца тут артыкул І. Ласкова „Племя пяці родаў“ з аднаго з мінулагодніх „ЛіМаў“. Аўтар прыводзіць там аналогіі паміж назвамі тыпу: Літва, Нарва, Пульва... і старается паказаць, што гэтыя назвы угра-фінскага паходжання (вельмі цікавая ідэя!)... У гэтай моўнай групе існуе слова: **ва** — Вада. Так вось, Пуль-ва, Нарва, Літва. А што б абазначала слова Пул(ь)?

Непадалёк ад мастка на Пульве даліна крыху падымаецца, тут знаходзіцца нейкае незвычайнае земляное ўзвышша. Няўжо гарадзішча? Але вялікае плошчаю ўзвышша нагадвае ваенныя фарты, мабыць, шведскія з XVII ст. Сярод блытаніны карчоў, дрэў ды крапівы можна заўважыць рэшткі падземных ходаў, акопаў і падвалаў у выглядзе глыбокіх вялікіх ям. Вернемся яшчэ сюды позным вечарам, каб разгуляцца да першых пеўняў у „Купальскую ноч“. Цяпер ідзем у Клюковічы, выбіраючы акружную дарогу, каб яшчэ наведаць Літвінавічы.

Літвінавічы існавалі ўжо ў XV стагоддзі. Уласнікамі сяла ў XVI/XVII ст.ст. былі Літвіноўскія. Крыху пазней Літвінавічы пачалі насяляць жыхары з вёсак Лясная і Навіны каля Гайнаўкі (падобна Полаўцам). Пры ўездзе ў Літвінавічы з боку Зубачоў можна наглядаць цікавыя збудаванні, зусім нетыповыя для нашага драўлянага Падляшша. Стаяць клуні і хлявы, узведзеныя з палявога каменю. Мабыць, гэтыя напаўразбураныя будыніны — рэшткі даўнята фальварку.

З Літвінавіч як каменем дакінуць да вёскі

### КЛЮКОВІЧЫ

Хаця і ногі ўжо баляць, ідзем па старой брукаванцы хутчэйшым крокам. Ведаем, што ў Клюковічах чакае нас адпачынак і смакавіты абед у бацькоў Валерыка Янчука...

І так вось седзімо перад хатай Янчукоў. Абед на траве, у засені садочку, смакуе незвычайна, а некалькі нашых ласуноў зашыліся ў парэчкі і трошчаць іх, ажно вушы трасуцца. Можна пры абедзе крыху пагаварыць пра Клюковічы. Вёска вядомая ўжо з 1499 г. У XVI ст. уласнікамі яе быў род Букраба-Клюковіцкі. На працягу стагоддзяў Клюковічы заставаліся цэнтрам вялікіх землеўладанняў. Яшчэ сёння стаяць дворскія збудаванні з драўляным дворам ды каменнымі (як у Літвінавічах) гаспадарчымі будынкамі. З даўнейшых часін захаваліся ў Клюковічах таксама каменныя студні з вельмі смачнай вадою.

Нехта ў нашай грамадзе згадвае яшчэ раз пра ўзгорак над Пульваю, праз які мы нядаўна праходзілі. Аказваецца, у памяці людзей жыве паданне, што быццам на тым узгорку стаяла некалі царква, і яна праваліласся пад зямлю. Прылажыўшы вуха да зямлі, можна пачуць гул званоў... Згадваюцца тут падобнага тыпу паданні пра бельскую Замкавую Гару, гацькоўскае гарадзішча, Дубічы-Бахматы і інш. Прыходзіць на памяць таксама балада А. Міцкевіча „Лілеі“ — паэтычная інтэрпрэтацыя беларускай легенды аб царкве, якая праваліласся. У Міцкевіча легенда набірае вялікага маральна-этычнага сэнсу і несумненна, як кожная легенда, мае недзе свае рэальныя вытокі... Неўзабаве ў Такарах самі зможам спазнаць цудоўную сілу людской памяці аб паданні... А цяпер усю ноч будзем весяліцца ў разгуле „Купалля“ на клюковіцкіх „фартах“..

Перад намі яшчэ сустрэча з Такарамі, іх асаблівым мінулым.

*(Працяг будзе)*

**Мікола Сахарэвіч**




(Працяг са стар. 1)

імем звязаны былі кніжныя выстаўкі „Скарыніяна“ і „Францыск Скарына і сённяшні дзень беларускага кнігавыдання“, а таксама мастацкая выстаўка, пленэр па жывапісу, канцэрт у філармоніі, прэс-канферэнцыя ў Доме літаратара, пасяджэнне арганізацыйнага камітэта міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, літаратурныя вечары, сустрэчы замежных гасцей з рабочымі калектывамі Менска, таго Менска, дзе дагэтуль аб слаўным на цэлы свет юбіляры было глуха. Вось толькі праз пяцьсот гадоў адкрылі мемарыяльную дошку, яго імем назвалі вуліцу, прадбачваецца стварыць нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны, паставіць у сталіцы помнік.

Беларускае радыё і тэлебачанне шырока каментавалі ў сваіх праграмах святочныя падзеі... Польская дэлегацыя была шматлюднай, а з Беласточчыны прысутнічалі Алесь Баркскі, Уладзімір Юзвюк і я. Жылі мы ў гасцініцы ў цэнтры Менска. Гаспадары паклапаціліся, каб усім гасцям нічога не бракавала і каб было святочна і светла. І так яно было. Аднак вуліцы пужалі сваёй шэрасцю. Мітусіўся натоўп, людзі спяшаліся — заклапочаныя, абяссіленыя, з агорклымі душамі, нервова напружаныя, у цені сваіх штодзённых турбот і згрызот. І толькі нямногія з іх былі асветленыя святлом Францыска Скарыны.

**Ян Чыквін**




*Нашчадкі Скарыны з Полацка. Фота У. Пучынскага.*

# А я ўсё жыву



У Семяноўцы дагнаў мяне дождж, халодны, асенні. Кідаю ровар пад плотам маленькага панадворка. Сярод высокіх белых таполяў стаіць хатка. З недалёкага палетка з кошыкамі ідуць бабуля і сярэдняга ўзросту жанчына. Бабуля — гэта Галена Бірыцкая. Памятаю з дзяцінства, як больш дваццаці гадоў назад баба Галенка пераехала сюды з калёніі, з-за Марушкі, з хворым мужам, як пасадзіла таполі, якія хутка растуць, каб цянёчак быў для хворых Паўлавых вачэй...

— Кася прыехала аўтобусам, дачка сястры, дапамагае мне капаць бульбу, — кажа баба Галенка. — Але бульбы ўжо нямнога было, гэты кавалачак поля. Хароша, велька. Добра мы ўчора дзярнулі ўдваіх. Кася маладая, а мне восемдзесят. Я адзін радок, яна — два. Укапаю, кошык нясу і не высыплю, пакуль не аддыхаюся. Столькі год чалавеку, і ўжо не так робіцца. Дзвацаты год ідзе, як я сама, без Паўла. Даволі! І столькі часу без рэнты і без ніякай помачы. От, не ведаю, ці два рокі будзе, як рэнту дастаю... А том гэта ўсё, што я адна, непісьменная, цёмны чалавек. Ніхто не падказаў, ніхто не параіў... І так дабівалася, думала так дажыць, не ведала, што так доўга жыць буду. Калісь тут былі мернічыя, каморнік быў, у Чаканскае сядзелі, і там перапісвалі зямлю, хто на каго, як меў. А браты Паўлавы не хацелі, каб хто мне якую дапамогу даў. Кажу Ваню: „Калі мы пойдзем, залатвім?!“ Адна ж калёнія. А ўсё ім няма як. Я сама пайшла да каморніка, пытацца, ці ён мне дапаможа ў маіх справах, мы ж судзіліся з братамі. І ўраднік мне памог. На мяне запісаў. Я хацела тады ўжо здаць зямлю — ужо былі гады як трэба, мела права. Ну, дастала я тады паперу, што зямля запісана на мяне. А Ваня неяк усё „залатвіў“. Аж у Марушку па мяне забег: „Ходзьце, вас начальнік гміны кліча!“ Я прыходжу, а Юзаф Навіцкі кажа: „Вы аддайце мне тую дэцызыю, вам прыйдзе праўдзівы акт уласнасці, бо той, што вам далі — гэта непраўдзівы!“ І я, дурная баба, аддала. Паўла ўжо не было сем ці восем год, а на яго перарабілі права ўласнасці! Я зноў да начальніка, а ён: „Мусова судом!“ Я еду ў Бельск. Я ж здаць зямлі не магу, бо на памершага мужа выставілі новыя правы, і я да нічога свайго не маю волі. Іду да адваката. Падзівіўся той і кажа: „Што за галава ў начальніка, высылаць кабету?!“ І запытаў мяне, як пісаць — ці ласкаю, ці прымусіць начальніка, каб усё зрабіў, як трэба. Ласкаю, кажу, можа мне чаго-лень да яго трэба будзе, ён жа начальнік! Напісаў адвакат дзве паперкі, сказаў, каб адну аддала Навіцкаму, а другую пакінула сабе. І я зноў да гміны. Начальнік падзівіўся, падзівіў-

(Працяг на стар. 8)

# ЧЫТАЦЬ СУСВЕТНУЮ ЛІТАРАТУРУ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Працяг са стар. 3)

агульная тэндэнцыя ў беларускім перакладзе настройвае даволі аптымістычна. Я асабіста лічу, што праз 5-10 гадоў у нас не будзе клопату з перакладчыцкімі кадрамі.

*— У гэтым месцы мне хочацца запытаць пра Ваша меркаванне наконт „перакладаў“ праз рускую мову, гэта значыць, пра пераклады рускамоўных перакладаў замежнай літаратуры. Такое ў беларускай літаратуры яшчэ нядаўна сустракалася даволі часта. І, дарэчы, сустракаецца і сёння, хаця не так ужо часта. Такую практыку хтосьці некалі вельмі дасціпна, па-мойму, назваў „перакрадам“... Як ставіцеся да гэтага Вы?*

— У нашай практыцы мы стараемся пазбягаць такой сітуацыі, калі стаіць пытанне пра пераклад з рускамоўнага перакладу. Дзеля гэтага мы і выхоўваем маладых перакладчыкаў, якія добра ведаюць мову арыгінала і з арыгінала перакладаюць. І гэта — асноўны напрамак у выдавецкай палітыцы нашай рэдакцыі, нашага выдавецтва... Праўда, здараюцца выключэнні, калі мы публікуем пераклад з перакладу. Але гэта толькі тады, калі за пераклад бярэцца выдатны майстра беларускага слова, скажам, выдатны пісьменнік... Тут, можна сказаць, бяруць верх меркаванні іншага роду: пераклад можа быць больш свабодным у адносінах да арыгінала, затое мы спадзяемся нейкай кампенсацыі ўзроўнем мастацкага слова...

*— Вы сказалі пра выхоўванне маладых перакладчыкаў, пра выдавецкую палітыку... Можа, захацелі б расказаць крыху шырэй пра тое, што зараз робіцца выдавецтвам „Мастацкая літаратура“ ў галіне перакладу, і пра ролю рэдакцыі, якой кіруеце, ва ўсім гэтым?*

— Спачатку трэба было б сказаць пра выданне, якое мае назву „Далягляды“ (выходзіць як гадавік) і якое прысвечана перакладам замежнай літаратуры. У ім публікуюцца поўнасцю пераклады паэтычных і меншых памерам празаічных твораў, фрагменты нейкіх большых рэчаў з прозы, як, прыкладам, фрагмент вашага перакладу „Уліса“ ў сёлетнім выпуску. Публікуюцца таксама і артыкулы, прысвечаныя паасобным пытанням перакладчыцкага майстэрства, і таксама некаторыя агляды-рэцэнзіі. У асноўным жа „Далягляды“ змяшчаюць перакладную прозу і паэзію. Гэтае выданне, па-мойму, дае шанцы маладым, якія спрабуюць перакладаць. Шмат часу працы з маладымі перакладчыкамі аддае супрацоўнік нашай рэдакцыі, вядомы перакладчык Васіль Сёмуха.

Наша рэдакцыя распрацавала выдавецкі план адносна перакладной літаратуры. Задачу, якую мы перад сабою паставілі, можна акрэсліць наступным чынам: хочам перакласці з сусветнай літаратуры ўсё самае лепшае, якое адначасова карыстаецца найбольшай прыхільнасцю чытачоў. У сучасны момант у нашым полі бачання знаходзіцца каля 300 кніжных пазіцый, якія падзелены на серыі. Выданне гэтых серый „Мастацкая літаратура“ ўжо пачала. Гэта „Паэзія народаў свету“ (выйшла каля 50 кніжак), „Бібліятэка замежнай прозы“ (выйшла 20 кніжак), „Скарбы сусветнай літаратуры“ (выйшлі 3 кніжкі: Уільям Шэкспір, Тарас Шаўчэнка, Томас Ман, 12 наступных знаходзіцца ў вытворчасці). Распачалі выдаванне серыяў „Замежны дэтэктыў“ і „Замежная фантастыка“.

*— Як фінансава стаіць Ваша рэдакцыя? Гэта значыць, ці акупляюцца выданні замежнай літаратуры на беларускай мове?*

— Наша рэдакцыя самая багатая ў выдавецтве. Мы даем „Мастацкай літаратуры“ каля 16 мільёнаў рублёў, гэта значыць, 50% ад усяго прыбытку выдавецтва. Перакладная паэзія наогул дае ўбытак, які кампенсуецца прыбыткам ад продажу кніг перакладной прозы. Найлепшыя фінансавыя вынікі далі два выданні: „Замежны дэтэктыў“ і „Замежная фантастыка“, якія, дарэчы, былі выдадзены вялікім, калі параўноўваць з ін-

Помнікі культуры

# Царква св. Міхала ў Бельску-Падляшскім



У гэтай царкве знаходзіцца каштоўная ікона „Хрыстос блаславляе". Намалявана яна алеем на дрэве і аздоблена рызай. Ікона з'яўляецца прыкладам царкоўнага мастацтва і напісана яшчэ пасля першай паловы XIX стагоддзя. Размеры іконы: 112 см × 76 см.

Хрыстос прадстаўлены да паловы, франтальна. Галава паказана наўпрост, твар колеру охры, з выразнымі рысамі, вялікімі вачыма, простым носам, падкрэсленай барадой і адтапыранымі вушамі. Валасы бронзавыя, доўгія, спадаюць на плечы. Правай рукой блаславляе, левай падтрымоўвае раскрытую кнігу з тэкстам на старацаркоўна-славянскай мове. Ікона прыкрытая драўлянай рызай, маляванай на колер золата. Хрыстос апрануты ў кашулю гладкую, аблямаваную каля шыі і на рукавах, а таксама рыза арнаментавана вялікімі дэкаратыўнымі расліннымі галінкамі. Вакол галавы накладны прамяністы арэол, драўляны і маляваны. Фон гладкі, белы. Рама драўляная, прафіляваная, залочаная.

**Р. С.**



Фота царквы **Я. Чэрнякевіч**



## З ВОКНАЎ ГЛЯДЗІЦЬ СТАРАСЦЬ

У верасні мінуў год як у Дзяржаўным доме пенсіянера ў Белавежы пасяліліся першыя жыхары. Зараз жыве ў ім каля шасцідзесяці бабуляў і дзядуляў, якім у сярэднім пад восемдзесят. Яны пераважна з Гайнаўшчыны. Жывуць у пакоях па двух, трох і чатырох. У кожным пакоі ёсць умывальня і туалет. На месцы ў іх сталовая. Не пазбаўлены яны санітарнай і медыцынскай апекі. У пляцоўцы знаходзіцца аддзяленне для працягла хворых. Пенсіянераў пастаянна наведваюць праваслаўны і каталіцкі святары, а для малітваў адведзены асобны пакой-капліца.

Сам будынак, у якім размясціўся Дом пенсіянера, даволі прасторны, двухпавярховы. Знаходзіцца ён на ўскраіне Белавежы, якую мясцовыя жыхары называюць Цэнтурай. Адгэтуль адзін крок у пушчу. І ўсё было б вельмі добра, калі б хто зняў пенсіянерам з плячэй гады. Дык дзе знайсці такога разумнага?

Эх, старасць, ты старасць!

Тэкст і фота **Пятра Байко**

шымі беларускімі выданнямі, тыражом. Гэта цешыць, не толькі з увагі на фінансавы бок справы, але і з увагі на пашырэнне сферы ўжытку беларускай мовы. Аказваецца, аматараў прачытаць цікавую кніжку на беларускай мове не так ужо і мала. Зразумела, што з чытальніцтвам кніжак на беларускай мове ўсё яшчэ сітуацыя ў нас ненармальная, і „Мастацкая літаратура" выдае шмат што на рускай мове, каб выстаяць фінансава. Але першыя зрухі на карысць беларускамоўных выданняў ужо пачаліся, і я думаю, што з цягам часу рускамоўныя выданні „Мастацкай літаратуры" будуць скарачацца.

— *Калі дазволіце мне на асабістую рэфлексію, то я, у сувязі з фінансавым поспехам „Замежнай фантастыкі" і „Замежнага дэтэктыва", хацеў бы адзначыць наступнае: выданні сенсацыйнай і фантастычна-навуковай літаратуры ў любой краіне даюць выдавецтвам прыбытак, а выдаванне, так бы мовіць, болей патрабавальнай у інтэлектуальным сэнсе літаратуры — фінансава дужа рызыкоўнае. Прыбытак звязаны з масавым чытачом, а так ужо паўсюдна завялося, што людзі нашмат больш ахвотна купляюць і чытаюць Сіменона ці Чэндлера, чымсьці Шэкспіра і Мана. Змяніць густ масавага чытача нашлях ці ўдасца, гэтым можна толькі пакарыстацца, асабліва ў сітуацыі беларускага кніжнага рынку. Попыт на сенсацыйную літаратуру ў Беларусі (як і ў цэлым СССР) пакуль што невымяральны. Тут можна прадаць усё, чаго да гэтай пары не было, а не было амаль нічога. Людзі такую літаратуру купяць і прачытаюць, і то на беларускай мове. Значыць, тут можна і зарабіць, і пашырыць, як Вы сказалі, сферу ўжытку беларускай мовы. Няма чаго саромецца, што тое пашырэнне (а лепш сказаць — рэанімацыя) будзе адбывацца пры дапамозе літаратуры не „найвышэйшага лёту". Тое ж самае, як сабе прыпамінаю, зрабілі чэхі ў дачыненні да свае літаратурнае мовы ў пачатку нашага стагоддзя. Анямечаная Чэхія прыбярнула сабе сваю нацыянальную мову кашмарнымі чытадламі пра забойствы, жахі і страхі. Чаму б нам не пакарыстацца іхнім вопытам? Зразумела, што такое магчыма ў шырэйшым маштабе толькі пры даволі свабоднай выдавецкай палітыцы, калі на* ***выдавецкім*** *рынку дзейнічаюць, акрамя дзяржаўных, і прыватныя выдавецкія суполкі. Сёння існуючыя беларускія выдавецтвы даволі інертныя ў сваім рэагаванні на патрэбы рынку... Але паспрабаваць варта, і трэба... Дык вось, гэта была мая рэфлексія наконт дэтэктываў і іншых сенсацыяў на беларускай мове. На заканчэнне мне хацелася б выведаць ад Вас, што „Мастацкая літаратура" выпусціць з перакладаў у бліжэйшы час?*

— Калі гаварыць пра папулярную літаратуру, то ў выдавецтве ўжо падрыхтаваны да друку наступны выпуск „Замежнага дэтэктыва" і „Замежнай фантастыкі". У прынцыпе я пагаджаюся з вамі, што трэба выдаваць такога роду кніжкі на беларускай мове, якраз па тых прычынах, пра якія мы тут гаварылі. У бліжэйшы час выйдуць „Па кім звоніць звон" Хэмінгуэя, „Гульня шкляных перлаў" Гесэ, „Тэўе малочнік" Шолама Алейхема, „Апавяданні і аповесці" Мерымэ, „1984" Оруэла, „Мур" Сартра, „Апавяданні пра Піркса" Лема, „Більярд а палове дзесятай" Бёля, „Гроны гневу" Стэйнбека, зборнік Сіменона. У „Даляглядах" мяркуем апублікаваць пераклады нашых эміграцыйных пісьменнікаў: Масея Сяднёва, Наталлі Арсенневай, Міхася Кавыля. Калі справа ў перакладах, дык зараз мы поўнасцю забяспечваем выдавецкі план. Няма выдавецкай пусткі, машынапісы новых перакладаў ляжаць у рэдакцыі. Клопат у іншым: мы ў Беларусі не маем сваіх спецыялістаў-літаратураведаў па замежнай літаратуры. Няма каму напісаць, скажам, уводны артыкул або каментарыі да перакладу. А хацелася б, каб асваенне і асэнсаванне замежных твораў у беларускім перакладзе адбывалася беларускімі літаратураведамі, у кантэксце беларускай культуры. У Інстытуце беларускай літаратуры няма напросту аддзялення замежнай літаратуры. У тым бяда...

— *Дзякую Вам за размову.*

Размаўляў **Ян Максімюк**

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

### 11. Дзеяслоў — працяг.

Дзеясловы абвеснага ладу маюць катэгорыю часу. Катэгорыя **часу** выражае адносіны дзеяння да моманту гутаркі. Дзеясловы маюць тры часы: **цяперашні, прошлы** і **будучы.**

**Дзеясловы цяперашняга часу** ўтвараюцца пры дапамозе асабовых канчаткаў дзеясловаў і абазначаюць дзеянне, якое:

— супадае з момантам гутаркі: Усім галлём **дрыжыць** маладая бярозка ад жуды, ад бяды. (Бял.), З двух аконцаў у сцяне **б'е** праз усю залу над галовамі блакітны і трапяткі пук святла. (Ракіт.),

— з'яўляецца пастаянным або характэрным для пэўнага прадмета: **Адлятаюць** ад нас жураўлі з лістападам, з сухімі вятрамі (А.П.), Вожык **колецца.**

Формы цяперашняга часу могуць ужывацца ў значэнні:

— прошлага часу (цяперашні гістарычны), дзе на мінулае дзеянне паказвае кантэкст, другія дзеясловы ў прошлым часе або дзеяслоў **бывала: Ляціць** ён, **бывала,** над палеткамі, **махае** гэтак паважна крыламі, потым спыніцца на адным месцы і **пачынае выглядаць** на зямлі птушак або мышэй. (Гр.),

— будучага часу: Заўтра **еду** ў вёску; Праз год **паступаю** ў інстытут. (Шам.)

**Дзеясловы прошлага часу** ўтвараюцца пры дапамозе суфікса **-л- (-ў)** і адпаведных канчаткаў: **нулявога** для мужчынскага роду **(ішоў), -а-** для жаночага роду **(ішла), -о-а** — для ніякага роду **(ішло, бегла)** і **-і** — для ўсіх родаў множнага ліку **(ішлі).** Дзеясловы з асновай на зычны ў мужчынскім родзе выступаюць без суфікса **-ў (вёз, рос).**

Дзеясловы прошлага часу могуць абазначаць:

— дзеянне, якое закончылася ў мінулым (дзеясловы закончанага трывання): **Прачнулася** старая і **задумалася.** (Брыль),

— дзеянне, якое працягвалася ў мінулым, да моманту гутаркі (дзеясловы незакончанага трывання): Ціхім жалем **веяла** ад аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё ж такі жыццё **стварала** своеасаблівыя формы і, нягледзячы на ўбоства, **мела** сваю павабнасць і хараство, свой твар. (К-с),

— дзеянне, якое адбылося ў мінулым, але вынік яго захаваўся і ў момант гутаркі (значэнне былога перфекта)[1]: **Сышліся** горы ўшчыльную каля замшэлае скалы. (Грах.)

У беларускай мове выступае і складаная форма прошлага часу. Утвараецца яна пры дапамозе дапаможнага дзеяслова **быць** у прошлым часе, які далучаецца да асноўнага дзеяслова, таксама ў прошлым часе, і абазначае „даўно мінулае дзеянне, якое адбылося раней за іншае дзеянне (значэнне старажытнага плюсквамперфекта)“[2]: Якраз тады **прыехалі былі** з горада рабочыя і прынялі шэфства над вёскай (К.Ч.).

Дзеяслоў у прошлым часе можа спалучацца з часціцай **бывала:** Малым хлопцам, **бывала,** я **ездзіў** у мястэчка; **Бывала, пакідалі** мы школьныя заняткі і **ішлі** ў грыбы.

**Дзеясловы будучага часу** абазначаюць дзеянне, якое будзе адбывацца пасля моманту гутаркі.

Будучы час мае дзве формы: **простую** і **складаную.**

Будучы просты час утвараецца ад дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе асабовых канчаткаў і мае значэнне:

— дзеяння, якое закончыцца ў будучыні: Вось **адбуду** тэрмін гэты... Зноў за кніжкі, за газеты. (К-с), Хіба толькі ў Вілейцы **запішу** свае ўражанні пра гэту незабыўную **сустрэчу.** (М.Т.),

— абагульненае: Рана **ўстанеш** — многа **зробіш.** (Пр.), Калі добра **ўзарэш,** то і ўраджай **збярэш.** (Пр.), Дзвіну **не запыніш** ніякай мяжой. (Зар.),

— цяперашняга часу: Размернымі ціхімі крокамі ідзе ён (Тарэнта) па мяжы... **Пройдзе** крыху і **стане, азірнецца** назад, тады зноў ідзе... (Гал.),

— прошлага часу: **Прывязуць,** бывала, з вёскі старэнькую бабку. (Грах.),

— імгненнага дзеяння ў мінулым: Тут човен раптам як **рванецца,** бы той спалоханы шчупак! (К-с)

Будучы складаны час утвараецца ад інфінітыва дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе асабовых форм дапаможнага дзеяслова **быць** у будучым часе **(буду чытаць, будзеш пісаць, будзе касіць, будзем вазіць, будзеце сеяць, будуць расказваць)** і абазначае дзеянне, якое будзе адбывацца пасля моманту гутаркі: Вы пытаеце, хто **будзе карыстацца** садам і сенакосам? Школа ваша. Сад і сенакос аддамо ў арэнду, каб прывесці ў парадак школу, дзе **будуць вучыцца** вашы дзеці. (К-с)

„У паўднёва-беларускіх гаворках ўжываецца сінтэтычная форма будучага складанага часу, якая паходзіць са старажытнай формы першага будучага складанага часу — асабовай формы і дапаможнага дзеяслова **іму: чытацьму, чытацьмеш, чытацьме, чытацьмем, чытацьмеце, чытацьмуць.** Такая форма сустракаецца ў творах мастацкай літаратуры: „Паночкі, што вы робіце? — палахліва загаварыў дзед Талаш, — нашто забіраеце сена?... апошняе сена!... Чым жа **худобу карміцьму?“** (К-с). Бацькі перапужаліся; вы суцешце іх, калі **пытацьмуць.** (Гал.), „А мы то як жа без вас **жыцьмем“,** — уздыхае маці. (Сач.)“[3]

---

[1] М.Ц. Кавалёва, А.К. Юрэвіч, Дзеяслоў, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 162.

[2] Там жа, с. 162.

[3] Там жа, с. 163—164.

# А я ўсё жыву

(Працяг са стар. 6)

ся, і сабе ў кішэнь усадзіў тую пісульку. Мне нічога не сказаў. З гэтым я і пайшла дахаты. І я больш да яго не хадзіла з гэтым жалем і плачам. Во, як дапамаглі. І да васьмідзесяці гадоў плаціла падаткі. Пакуль не пачалі інжынеры другога сцалення. Хацелі забраць маю лонку, Купіну, і даць дзесьці далёка, аж за Сцёпку. І перакінулі, але я на той лонцы ўжо не рабіла. Інжынер кажа: „Вы дваццаць гадоў павінны ўжо рэнту даставаць!“ І я знайшла такога чалавека ў вёсцы, каб мне напісаў у суд. Правы ўласнасці ж былі на Паўла, і я не ведала, ці іх не трэба перарабляць на сябе. З суда мне прыслалі рашэнне, што не трэба. А Навіцкі раней цвёрда казаў, што трэба будзе перарабляць на сябе гэтыя акты судом, бо я тых праўдзівых не мела, сам жа іх ад мяне забраў... А я каб сама што крыху ўмела — якась сабе радзіла б у жыцці, а то не напісаць, не прачытаць, зусім без школы. Павел быў на мяне зрабіў тэстамент, а пасля яго смерці браты хацелі засудзіць, што тэстамент фальшывы. Думала, дажыву так сабе, пакуль смерць мяне не возьме, а я ўсё жыву і жыву!

І так мне было — і падаткі, і апаліцца, і яшчэ з панадворка дровы брат Паўла забраў... Я сваю альшынку парэзала, што Павел падцерабляў на дровы. Брат прывёз ляснічага, міліцыю звакаваў, забраў дровы. А ў надлясніцтве не ведаюць, дзе чый участак. Трэба мне ехаць у Гайнаўку, прывезці паперы, колькі ў мяне чаго было. У Гайнаўцы мне сказалі, на што мне ўсё гэта, гэта ж каштуе. Што зробіш, калі патрабуюць? І я тады зноў у Броўск. Сказалі брату, каб мне дровы звярнуў. Выбраў сабе што лепшае і на калейку адвёз, прадаў, а рэшту вываліў у равок каля майго поля, уначы. Думалі гэтыя сваякі, што мяне дамучаць, але я якась яшчэ жыву...

Цяжка, аднак, дажываці. Замест дапамагчы... Хацелі ўняважніць тэстамент, мяне згэтуль выкінуць. А Гандзя верашчала: „Абарэм кругом хату, абарэм кругом хату, з хаты не выйдзе!“ Так я тут сваякам перашкаджала. Дзяцей не маю — ніхто не заступіцца. Я тут ніхто. Сорак год пражыла з Паўлам, і я ніхто тут. Але калі захварэла — усе прыбеглі. Думалі — паміраць буду. Ад таго часу больш ніхто не заглянуў.

— А сацыяльны працаўнік з гміны? Я зайду ў Нараўку, скажу, каб вам у нечым дапамаглі!

— Добра было б, каб дроў мне якіх крыху прадалі, танней. Ці які вугаль...

— Ёсць фонд у гміне на дапамогу патрабуючым...

— Я хадзіла да войта, Павільча, як мянялі падлогу ў школе ў Семяноўцы. Бачыце, якія дзіры ў памосце, дошкі гнілыя, усё гойдаецца. Я тут усё палавікамі, шматамі панакрывала. І лагуны перагнілі. Я хадзіла ў школу, да дырэктара Кічко, каб мне прадалі пару метраў тых дошак. Але іншым прадалі. А мне не.

Ці можна так крыўдзіць старога, адзінокага, безабароннага чалавека, — уздыхае баба Галенка. — Мусіць так быць на свеце; ці што? Што новы жонд? Не ведаю, ці такому чалавеку, як я, будзе калі лепей. Калі б чалавек быў крыху падвучаны, хоць крышку, то можа да чаголень дабіўся б... А мы калісь паасталіся сіротамі, пяцёра дзетак. Мы пухлі з голаду. Калі нам было вучыцца? Я ад шасці гадоў была нянькай у чужых людзей. І ў добрых людзей была, і ў кепскіх. І ўсё жыву...

**Міра Лукша**

## ЛАГАПЕДЫЧНЫ ЦЭНТР

У верасні г.г. па ініцыятыве д-ра Антонія Балейкі стварыўся ў Беластоку Цэнтр па развіцці і дэфектах маўлення. Змяшчаецца ён на вуліцы Мазавецкай 35 і прымае наведвальнікаў кожную сераду ад гадз. 8.30 да 13.30. Тут можна атрымаць інфармацыі і парады з галіны развіцця і дэфектаў маўлення ў дзяцей, даведацца, як перадольваць парушэнні маўлення, як лячыць афазію, заікванне і падобныя хваробы. Бацькі, дзеці якіх маюць цяжкасці з тым, каб навучыцца чытаць і пісаць, могуць даведацца, як весці з імі карэкціровачна-кампенсацыйную працу. Спецыялісты з цэнтра арганізуюць лагапедычныя курсы для бацькоў, настаўнікаў і студэнтаў педагагічных інстытутаў.

Навукоўцы з беластоцкага лагапедычнага цэнтра ахвотна наладзяць супрацоўніцтва з іншымі лагапедычнымі асяродкамі ў краіне і за граніцай. Для зацікаўленых падаем адрас: **Centrum Rozwoju i Zaburzeń Mowy, 15-031 Białystok, ul. Mazowiecka 35, tel. 234-34.**

## НАБІТЫ Ў СЕКС

У беластоцкіх газетах паявілася нядаўна аб'ява, у якой секс-магазін (Sex-shop) з Ломжы прапанаваў пасылковую продаж. Каб атрымаць інфармацыю, што можна купіць, патрабавалася пераслаць пад названы адрас канверт з маркай. Цікавы гэтага „подыху Захаду“ паслаў я сваё запатрабаванне. Пасля тыдня атрымаў зваротны канверт, а ў ім той першы з паметкай: „Паштовая скрынка нумар 40 у Ломжы належыць дзяржаўнаму прадпрыемству“. Гэтую інфармацыю пацвярджалі штэмпелі трох ломжынскіх поштаў. І што ж гэта выйшла? Меў быць Захад, а тут павеяла... далёкай Азіяй!

Праз некалькі дзён убачыў я ў газетах новую аб'яву. Ломжынская крама з „сексуальным таварам“ рэкламавалася цяпер так: „Прышлем табе інфармацыю, калі згодзішся ўплаціць за яе 20 тыс. зл.“.

Пайшлі вы ў буракі! Другі раз мяне не надуеце. Секс-шоп(ку) рабеце для іншых. Эратаманаў у нас поўна!

**Пятро Байко**

## ВІТАЕМ БЕЛАРУСКУЮ ФІРМУ

Нядаўна ў Варшаве пры аддзеле БГКТ арганізавалася фірма „Біяполь“. Займаецца яна абменам тавараў з рознымі гандлёвымі прадпрыемствамі на Беларусі і ў іншых рэспубліках Савецкага Саюза, супрацоўнічае з гаспадарчымі арганізацыямі ў розных краінах Еўропы, Амерыкі і Блізкага Усходу, а таксама вядзе скупку тавараў ад рамеснікаў і народных умельцаў.

Як паінфармаваў нас старшыня праўлення суполкі „Біяполь“

BIAPOL

Яўген Салагуба, фірма толькі што пачала сваю дзейнасць і з ахвотай прыме ўсе цікавыя ініцыятывы і прапановы супрацоўніцтва. Зацікаўленым паведамляем адрас фірмы: **PPHU „Biapol“, ul. Starościńska 1 B, 02-516 Warszawa, tel. 48-30-61, teleks 81-35-93, telefax 65-93-040.**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Алена Руцкая

### НАСТАЎНІКУ

На роспач не маеш права,
Хаваеш слабасць і стому.
Твая нялёгкая справа
Жыццё адкрываць другому.

Любові навучыць аддана
Да роднай пявучай мовы,
Што з песні жытоў саткана,
Са звону гусляў вясновых.

Любові да роднага краю,
Да песень і казак матулі,
Сівых кургаНоў ля гаю,
Дзе мудрыя продкі паснулі.

У працы не маеш права:
На роспач,
на слабасць,
на стому.
Твая пачэсная справа —
Жыццё адкрываць другому.



*Сцэнка з казкі аб спячай каралеўне ў пастаноўцы школьнага тэатра з бельскай „тройкі". Кіруе калектывам настаўніца Ларыса Бурыла.*
*Фота Я. Чэрнякевіч.*

## Аляксей Якімовіч
# ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

(Урывак з кнігі „Гордзіеў вузел")
Пачатак у папярэдніх нумарах

I я паверыў. Паверыў у гэтую гісторыю, як ёсць, да канца паверыў. I прагну ў дарогу хутчэй адправіцца, алфавіт з палону выручаць. Нечага сядзець. Нечага марудзіць.

Міколка быццам бы не чуе.

— Перад тым, як ісці ў дарогу, — пачынае няспешна, — я пазнаёміўся з картай нашага раёна. Найбольш цікавілі мяне азёры. Аказалася, што бліжэйшае з іх — Бяздоннае — знаходзіцца ля станцыі Сосны.

— Хадзем возера шукаць, — ускінуў я рукзак на плечы.

— Навошта шукаць? — спыніла Аленка. — Вунь дзядуля ідзе. Тутэйшы ён. У яго і спытаемся, дзе возера знаходзіцца.

Напрасткі, лугавінаю, на станцыю шыбаваў незнаёмы дзядуля: сівабароды, апрануты ў ватоўку, з кіем у руках.

— Добры дзень, дзеці! — першым прывітаўся дзядуля.

— Добры дзень! — дружна адказалі мы.

Самы раз было б цяпер размову распачаць, пра возера распытацца. Але маўчаць Міколка і Аленка. Маўчаць, нібы на языкі ім па пудоваму замку павесілі. I ў мяне няма асаблівай ахвоты гаворку з ім заводзіць: а раптам вучобай маёй пацікавіцца. У дарослых заўсёды так бывае. Таму лепш прамаўчаць, асабліва пры сябрах, якія цябе, як аблупленага, ведаюць.

Дзядуля адышоўся ўбок, на кій абапёрся, кудысьці ўдалеч глядзіць, нібыта ўсякую цікавасць да нас страціў.

— Дзядуля, — нарэшце адважыўся я запытацца, — а дзе тут возера?

Не мяняючы паставы, ён перапытаў:

— Бяздоннае?

— Ага, Бяздоннае, — узрадаваўся я таму, што абыходзіцца без лішніх роспытаў.

— Рукою падаць, — павольна, расцягваючы словы, прагаварыў дзядуля.

Рукою падаць... Каму падаць? Навошта падаць? Штосьці блытае ён. Недачуў, пэўна. Перапытаць трэба.

— Дзе возера знаходзіцца? — пытаюся мацней.

Дзядуля працяў мяне позіркам калючых вачэй.

— Шукай возера там, дзе дубы з небам гавораць.

Ну й пашчасціла мне. Ну й дзядок трапіўся. Не засумуеш з такім.

— Вы не смейцеся з нас, — вырашыў не адступацца.

— А я і не смяюся, — незадаволена крэкнуў дзядуля. — Зарубі сабе на носе, хлопча.

Тут я зусім разгубіўся. Чаму, што павінен на носе зарубіць. Не паспеў апамятацца ад гэтага, як зноў чую:

— І чаго ты надзьмуўся, як мыш на крупы?

Не, падобнага вынесці я не мог.

— Вы самі, самі... — не асмеліўся дакончыць.

— Вушы вянуць, цябе слухаючы, — нібыта паспагадаў дзядуля.

Я глянуў на яго вушы. Вушы як вушы. I чырвоныя. Зусім не вянуць.

— Навошта хлусіце? — кажу яму.

Паківаў ён галавою:

— Ад зямлі не адрос, кату па пяту, а хлусам абзывае.

— Ды вы што? — абурыўся я зусім. — Толькі за апошні год я на цэлых дваццаць сантыметраў вырас.

Вядома, больш як дзесятак сантыметраў я ад сябе дабавіў. Але нічога. Няхай ведае, з кім размаўляе.

— Плот, ты, хлопча гародзіш. Ён мне проста пад дых ударыў. Ашаломлены я нешта намагаўся сказаць, але словы нібы ў горле заселі. Не вымавіць. I я толькі разяўляў рот і дыхаў часта-часта, што рыба, выцягнутая з вады.

А дзядуля, не даючы апамятацца, ужо лагодненька гаворыць:

— А хочаш бярозавай кашы?

— Хачу, — кажу, як заварожаны.

Добра, аднакласнікі мяне падтрымалі, а то...

— Дзядуля, — першая кінулася на абарону Аленка, — не трэба бярозавай кашы. Гэта ў яго проста з языка зляцела. На кручок вы яго ўзялі.

I Міколка ўбаку не застаўся.

— Выдатна вы раструмачылі. Мы ўсё-ўсё зразумелі і дарогу да возера з заплюшчанымі вачамі знойдзем.

Старога як падмянілі. Расплыўся ва ўсмешцы:

— З вамі вось загаварыўся. Недарма вы хлеб ясце. Таму не будзем больш пра бярозавую кашу. Ну, а каб да возера лягчэй было трапіць, каб не блудзілі доўга, яшчэ адзін арыенцір дам: гасцінец вас туды давядзе.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Васіль Хомчанка

### БЕГЛА МЫШКА...

Казку пра мышку Сяргейка расказвае разам з дзедам. Вось так:

— Жылі-былі, — пачынае дзед.

— Дзед і баба, — падхоплівае Сяргейка.

— Была ў іх...

— Курачка рабка.

— Знесла курачка...

— Ячка, — гаворыць Сяргейка.

Гэтую казку вы ўсе добра ведаеце. А калі хто забыў, то напомнім. Тое ячка, што знесла рабая курачка, у дзеда з бабаю доўга не паляжала. Бегла шэрая мышка, махнула хвосцікам і скаціла яго з лавы. Ячка разбілася. Заплакалі дзед і баба ад жалю. А курачка ім кажа: „Не плач, дзед, не плач, баба. Знясу вам ячка другое, ды не простае, а залатое".

Вельмі любіць Сяргейка гэтую казку.

Аднойчы дзед купіў у магазіне дзесятак яек, прынёс іх дамоў і паклаў у кухні на стале. Сяргейка ўбачыў яйкі і сам, без дзеда, пачаў расказваць казку:

— Жылі-былі дзед і баба. Была ў іх курачка раба. Так, дзед?

— Так, унучак.

— Знесла курачка ячка. Вось гэтае. Знесла другое... — Сяргейка адклаў убок яшчэ адно яйка. Далей лічыць ён не ўмеў і сказаў: — Знесла многа, многа, многа яек. А тут бегла мышка...

Сяргейка растапырыў пальчыкі, і яны пабеглі, як мышыныя ножкі, па стале. Дабеглі да крайняга яйка, спыніліся...

— Бегла мышка, — паўтарыў Сяргейка і зірнуў на дзеда, — махнула хвосцікам. Вось так. — I Сяргейка штурхнуў яйка пальчыкам. — А ячка — бух!..

Яйка скацілася са стала і разбілася.

— Ты што гэта робіш? — строга спытаў дзед.

— Гэта не Сяргейка, гэта мышка сваім хвосцікам.

Хлопчык падбег да дзеда, абняў за калені і пачаў расказваць казку далей:

— Не плач, дзед, не плач, баба, знясе вам курачка ячка другое, не простае, а... якое, дзядуля?

— Залатое, — сказаў дзед і падхапіў унука на рукі.

Мікола Хамянкоў

### УРОК

З самай раніцы
Змітрок
Вучыць з мамаю
Урок.
Дзед смяецца:
— Ўнук, відаць,
Атрымае сёння „пяць".
Кажа бабка:
— Гэта так,
Ды не ўцямлю я ніяк —
Прынясе адзнаку ўнук,
Як яе дзяліць
На двух?

## АЛЯКСЕЙ ЯКІМОВІЧ

# ЯК Я СТАЎ ГЕРОЕМ ДНЯ

(Працяг са стар. 9)

Дзякуюць Аленка і Міколка, словамі рознымі перад дзядулем рассыпаюцца, а я зразумець не магу, за што дзякуюць. Рукою падаць, дубы з небам гавораць, гасцінец давядзе... І за што яны яму дзякуюць?

Ужо трошкі пазней, па дарозе, давялося выслухаць мне ад сяброў цэлую лекцыю і „пра бярозавую кашу“, і „пра рукою падаць“, і „пра дубы, што з небам гавораць“, і „пра гасцінец, які да возера давядзе“. Аказалася, што вельмі проста тлумачыў дзядуля, „рукою падаць“ — блізка, побач зусім, „дубы з небам гавораць“ — значыць шукай возера там, дзе дубы растуць, а „гасцінец“ — гэта дарога, якая да возера ідзе.

Крочым мы па гасцінцы тым, старымі вербамі абсаджаным. Наперадзе — Міколка з Аленкаю, ззаду я плятуся. Непрыемна на душы. Нібыта нейкі чарвячок точыць. Ці не ўпершыню быццам збоку, быццам чужымі вачамі на сябе гляну. Гляну і здзівіўся. Хто я такі? Што я ўмею? Мяч ганяць? Дык не вельмі, хоць і цешуся надзеяй, што некалі ў сапраўдную каманду прымуць. Маму падмануць? І гэта не заўсёды атрымліваецца. А сёння... Сённяшняе і ўспамінаць не хочацца. З якога боку ні вазьмі — няўдачнік я.

А чаму? „З кім павядзешся, ад таго і набярэшся“, — неяк зазначыў тата пасля тае гісторыі з матаровам. Тады яшчэ пасмяяўся я. Пасмяяўся... А, магчыма, і меў ён рацыю. Хто мае дружбакі? Віцька з Міцькам. Здаецца, неблагія хлопцы, але... Маці лаецца: „Да кепскага цябе Віцька-Міцька давядуць“. Давядуць. Як гэта — давядуць?

Быццам наяве, торба перада мною паўстала. І падумалася, што гэта не я, Алесь Пятрашка, вучань пятага класа, па гасцінцы іду, а цень мой ідзе, старэчы, жабрачы, і за плячыма маімі не рукзак вісіць, а торбы, торбы... І гэтак шкада стала сябе. Ад жалю нават плакаць хочацца. Да торбы давялі... Торбамі абвешаны... Усе, знаёмыя і незнаёмыя, на вуліцы прыпыніліся, глядзяць на мяне, пальцамі паказваюць, абсвістваюць.

— Ты чаго плянцешся, як на заўтра? — даходзіць бы здалёку.

Ага, гэта Міколка злуецца. Баіцца, каб не ўцёк куды. Няма чаго баяцца. Не ўцяку. Дакажу, што і я на нешта здатны. Годзе памыляцца. Навучыўся ўжо. Годзе. На памылках, вядома, вучацца. І я навучыўся ўжо...

— Возера, возера! — крычыць Міколка.

Я папраўляю рукзак, прыбаўляю кроку.

„Што ж, Пятрашка яшчэ пакажа сябе, — цешуся надзеяю. — Яшчэ пабачыце. Пакажа. Не ўсё яшчэ згублена“.

# ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

### ТРЫВЕЖА

Дзе цяпер Вежанка і Трывежа, даўным-даўно жыў пан. Ён там пабудаваўся і засадзіў гектар саду. Вакол яго замка раслі высокія і вельмі прыгожыя дрэвы, звалі іх сокаламі. Меў пад сваім уладаннем многа гектараў зямлі. Полем яго ўладаў падпанак... Пан, пад якога ўладаннем былі гэтыя землі, не хадзіў па іх, а высылаў толькі свайго падпанка Аніську, а сам з паняй шпацыраваў па сваім парку ды раз-пораз узлазіў на вежу, якая стаяла каля яго двара, і глядзеў на свае доўгія палі, як працуюць яго сяляне.

Апрача таго, у полі, стаялі яшчэ тры вежы, на якія ўзлазіў падпанак Аніська...

Надыйшоў урэшце час, і пан памёр. Астаўся толькі Аніська з дочкамі. Пачаў ён зямлю прадаваць. Народ на гэтае месца з'язджаўся з усіх бакоў. І на гэтай гары, дзе стаялі тры вежы, вырасла вёсачка Трывежа, а ўбок, дзе стаяў панскі замак і дзе стаяла адна вежа, разбудавалася вёсачка Вежанка.

### ТЫНЕВІЧЫ

А было гэта так. З Нарвы, з праваслаўнага манастыра шляхам на Бельск і Драгічын ішлі трое манахаў.

Спыніліся на ўзгорку сярод лесу, расклалі агонь.

І так павялося з таго часу, што потым ужо заўсёды спыняліся на тым самым месцы. Пасля гэтыя манахі пабудавалі тут сабе тын — загарадзь з тоўстых бярвенняў, каб абараняла іх ад драпежных звяроў.

Памалу тын павялічваўся, побач пасяліліся мужыкі, пачалі карчаваць лес і займацца земляробствам.

У Нарве жыхароў недалёкага тыну пачалі называць тыневічамі... Адсюль і назва вёскі. Цяпер ёсць дзве вёскі Тыневічы: Вялікія і Малыя.

**(З кнігі І. Гурскага „Бяздоннае багацце“.)**

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР
**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

**— 14 —**

Францыск Скарына, як калісь у Празе, так цяпер у Вільні, выдае свае кнігі з асветніцкімі мэтамі для небагатых людзей, як ён сам піша, „людзям паспалітым на добрае навучанне“.

З гэтага боку асабліва цікавая апошняя частка „Малой падарожнай кніжыцы“, дзе змешчаны розныя каляндарныя, астранамічныя і нават медыцынскія звесткі — усё тое, што найнеабходней было чалавеку ў дарозе.

І для нас з вамі цікава прачытаць, скажам, такія радкі: „месецъ септеврий зовемы вресень“, „февраль... люты“ „июнь... чирвецъ“, „июль... липецъ“. Нягледзячы на старое пісьмо, здаецца, бруіць у іх наша сённяшняя беларуская мова.

Скарына тут падае такія каляндарныя весткі, якіх раней не было ў падобных, нават найлепшых заходнееўрапейскіх выданнях.

Гэтая каляндарная частка „Малой падарожнай кніжыцы“ паказвае нам Скарыну яшчэ і як выдатнага матэматыка і астранома. Скарына зрабіў падлікі, якіх ніхто да яго не рабіў на ўсходнеславянскіх землях і якіх ніхто не падаць і пасля Скарыны аж да 18 стагоддзя. Ён прадказаў шэсць месячных і адно сонечнае зацьменняў, якія змогуць убачыць жыхары Беларусі і Літвы ў 1523—1530 гадах. І ўсё гэта дакладна збылося.

Нарэшце пасля розных блуканняў па свеце Скарына мяркуе назаўсёды замацавацца ў Вільні. Ён жэніцца з удавою гарадскога радцы Юрыя Адверніка — Маргарытаю. Заможнасць жонкі дае надзею і на выдаванне кніг. Відаць, у гэты час Скарына задумвае вялікі план: наладзіць друкаванне кніг не толькі для роднага краю, але і для суседняй Маскоўскай дзяржавы, даць кнігу братам украінцам. Бо гэтыя тры народы, нягледзячы на розныя пазнейшыя межы, заўсёды памяталі сваю роднасць. І Скарына бачыў сэнс свае працы ў асвеце ўсяго ўсходняга славянства, „абы братия моя Русь, люди посполитые чтучи моглі лепей разумети“.

У нас няма дакладных звестак, што менавіта Скарына прыязджаў у Маскву. Але ёсць дакладныя паведамленні (і не адно, а два), што духавенства варожа сустрэла нейкага выхадца з Беларусі, які хацеў наладзіць прыкладна ў гэты час выпуск кніг у Маскве і чые выданні і шрыфт, паводле загаду вялікага князя маскоўскага, былі спалены.

Другіх друкароў на той час не было. Значыць, мяркуюць вучоныя, гэта быў Скарына. А тое, што такі сумны лёс напаткаў яго — рэч нядзіўная тады. Абмежаванае духавенства ды і пісцы, якія баяліся, што „друкарскі варштат“ адбярэ ў іх апошні кавалак хлеба, зрабілі ўсё, каб гэтую справу разладзіць.

Успомнім жа выдатнага рускага першадрукара Івана Фёдарава, які праз 46 гадоў пасля першай Скарынавай кнігі арганізаваў выданне кніг у Маскве. Колькі ганенняў, уціску прыйшлося зазнаць яму і яго паплечніку беларусу Пятру Мсціслаўцу з боку духоўнікаў! Каб прадоўжыць сваю кнігавыдавецкую справу, яны пераехалі ў Беларусь, а пасля на Украіну...

**Працяг будзе**

## *Вершы Віктара Шведа*

### У ВАДЗЕ НЕ ВІДНА ДЗІРАК

Спыталіся дзеці  
Сваіх аднагодкаў:  
— Куды вы нясеце  
Дзіравую лодку?

Хлапцы не марудзяць,  
Адказваюць шчыра:  
— У вадзе не будзе  
Відаць гэтых дзірак.

### ДЗЕ ЖЫВЕ БАБА ЯГА?

— Неспадзеўку такую  
Я забыць не магу:  
У сне бачыў жывую  
Злую Бабу Ягу.

А бабуля сцвярджае:  
— Няма іх наяву,  
Толькі ў казках бываюць,  
Толькі ў казках жывуць.

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

*Знайдзі шлях паміж абедзвюма белымі кропачкамі.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

